# КРЫВІНКА

ЖНІВЕНЬ

№13 (131)

2013 год

”Нельга есці хлеб народа і грэбаваць ягонай мовай”.
Ул. Караткевіч.

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

# ЖНІВО – 2013

**На 19-га жніўня ў Бешанковіцкім раёне было ўбрана 82 % плошчаў. То бок, жніво блізіцца да заканчэння. І тое не паўсюль. Да прыкладу, у гаспадарцы “Нізгалава” на гэту дату было абмалочана толькі 53% плошчаў. І тое, што жніво ў “Нізгалаве” ідзе традыцыйна са скрыпам, як, дарэчы, і сяўба – не сакрэт.**

Можна спрагназаваць і асабліва не памыліцца, што нават пры аптымаль-ным надвор’і жніво ў бальшыні гаспадарак мусіць быць скончана не раней за 1-га верасня. А, значыць, як і ў мінулыя гады, сёлета яно будзе доўжыцца біты месяц з гакам. Як правіла, у нашым раёне яно пачынаецца каля 15-га ліпеня і цягнецца да 1-га верасня.

Агароды ў гэты час ужо цалкам парослыя травой, а зерне пасля абмалоту вільготнае. І дасушыцца яго неяк: на вераснёўскае сонца надзея слабая. А таму ўся надзея на важкі каравай з калгасных палеткаў.

Але сёлета тут пахвaліцца няма чым. “Наватар” ужо зваліўся з 40 ц/га, “Палітаддзелец” да канца жніва наўрад ці ўтрымаецца на 30 ц/га. А ў астатніх гаспадарках паказчыкі ўраджайнасці ўжо больш чым сціплыя – 22 – 27 ц/га. Такая ўраджайнасць была 30 гадоў таму, калі я пачынаў сваю агранамічную працу на Бешанковіччыне. Не было тады аграгарадкоў, сучасных камбайнаў, энерганасычаных трактараў, абаротных плугоў і г.д. А намалочвалі тыя ж 25 ц/га.

Сёлета ўмовы надвор’я нельга назваць у цэлым неспрыяльнымі для зерневых культур. Чаму ж тады ў большасці гаспадарак раёна на 19-га жніўня ўраджайнасць складае ўсяго 25 – 27 ц/га? Гэта ж толькі на 80% плошчаў, калі ўбраны найлепшыя, найбольш урадлівыя ўчасткі. А якой будзе ўраджайнасць 1-га верасня?

Не, мы ведаем колькі мільёнаў нам трэба намалаціць, каб “забяспечыць харчовую бяспеку краіны”. На паперы мы намалоцім, колькі нам загадаюць. Але ж не за гарамі час, калі буханка хлеба ў крамах будзе каштаваць ужо даляр, а то і больш.

Па стану на 13-га жніўня на раённай Дошцы гонару быў нават ААТ “Бачэйкава-Агра” з ураджайнасцю 27 ц/га. Такую ж ураджайнасць мелі перадавыя гаспадаркі Бешанковіцкага раёна яшчэ ў 70-я гады мінулага стагоддзя.

*P.S. Пацверджанне маіх слоў: “Гранічныя максімальныя адпускныя цэны па асобных групах хлеба і хлебабулачных вырабаў з 29 жніўня будуць павялічаны ў сярэднім на 10%.” Гэта прадугледжана пастановай Мінэканомікі № 59 ад 23 жніўні 2013, якое афіцыйна апублікавана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе БЕЛТА. Дакументам уносяцца змяненні ў пастанову Мінэканомікі № 35 ад 26 красавіка 2012.*

**Партал твайго горада: http://beshankovichy.by**

# УЛ.АРЛОВУ

*Калі цемра фарбуе нябёсы гусьцей*
*і няўрымсьлівай коткай душу маю драпае,*
*мой зьдзіраўлены човен –*
*няўлоўны, як цень,*
*мкне ў краіну, якую ня знойдзеш на мапе.*

*І няхай мала шансаў і мала надзей,*
*што рух ветру паніклыя ветразі зловяць,*
*штурман мой – маё сэрца бясхібна вядзе*
*найдакладнейшай з мапаў,*
*па мапе любові.*

*Анікому на сьвеце ня вынайсьці чар,*
*каб зьбіць з курсу яго,*
*каб спыніцца прымусіць.*
*З апраметнае цемры ўяўляю я твар*
*разьняволенай, сьветлай, жывой Беларусі.*

Г.Станкевіч

НАША СПАДЧЫНА

# ЗРУЙНАВАНАЯ “САЛОМІНКА”

**Парк “Саломінка” заклаў у 1906-м годзе ў вёсцы Дабрыгоры ваенны ўрач П. М. Красавіцкі, які ў час сваёй службы на Далёкім Усходзе быў здзіўлены разнастайнасцю расліннага свету і паспрабаваў стварыць падобны куток на роднай зямлі. Падарожнічаючы на ровары па родным краі, я і завітаў сюды.**

Асноўная па аб’ёму частка парку Красавіцкага уздоўж ліпавай алеі, па якой пад’язджаеш да сядзібы, была адведзена пад сад, які меў чатырохвугольную форму. Ён адрозніваўся разнастайнасцю гатункаў і даваў пачатковы матэрыял для пашырэння культуры пладовых раслін.

Цяпер у цэнтры гэтага парка больш за 10 гадоў стаяць руіны былога дзіцячага садка былога калгаса “Савецкая Беларусь”. Падобна на тое, што сілаў, каб разабраць тыя руіны за 10 гадоў, у раённага аддзела культуры (а цяпер яшчэ і ідэалогіі) няма. Хаця на суботнікі аддзел выязджае рэгулярна, толькі на тых суботніках ён фарбуе прыдарожныя загароды ды чысціць фермы.

У любой еўрапейскай краіне на гэтым месцы сярод парка стаяў бы помнік заснавальніку "Саломінкі". Але людзі без памяці на тое няздольныя.

Алеі ўздоўж сада раней утваралі прагулачны маршрут. Ён быў своеасаблівым, бо тут былі высаджаны розныя экзоты – бук лясны, карагана дрэвавідная, таполя Пятроўская, лістоўніца еўрапейская, ліпа буйналістая і іншыя.

Вы спытаецеся, ці захавалася што да нашага часу? Так, захавалася. Па-першае, гэта алея з лістоўніцаў. Праўда, сёння гэтай алеяй ніхто не ходзіць. Лістоўніцы магутнымі волатамі ўзвышаюцца над берагам ракі Крывінкі, маўклівымі сведкамі ўсіх злачынстваў, што адбыліся на тутэйшай зямлі за апошнія 100 гадоў.

Ёсць і цудоўныя ліпавыя алеі, якія атачаюць былы парк з усходняга і паўднёвага бакоў. На пачатку адной з алеяў вісіць знак, што парк ахоўваецца дзяржавай! Аднак знак той намётва прыбіты цвікамі да адной з ліпаў, якую калісьці садзіў Пётр Красавіцкі. Узнікае пытанне, што ж з'яўляецца каштоўнасцю: ахоўная шыльда ці парк і дрэвы ў ім?

Вось так наш аддзел культуры райвыканкама пазначае сваю прысутнасць на тэрыторыі.

А ў глыбіні парку пануе запусценне. Зрэшты, не паўсюль. Захаваліся тут сляды дома, які пабудаваў калгас у 70-х гадах. Дом той згарэў, а вось нейкія будкі ад яго засталіся.

Невялікую заходнюю частку сядзібы ўздоўж алеі з лістоўніцы раней займалі пейзажныя пасадкі на плошчы каля аднаго гектара. У склад іх уваходзілі піхта сібірская, субальпійская, белая і бальзамічная, сасна горная, жорсткая і чорная, ясень арагонскі, арэхшэры, лістоўніца Кемпфера і іншыя. Зараз гэта ўсё беззваротна страчана. Як страчана і прызначэнне самога парку.

Ніхто тут не гуляе. Сюды не прыязджаюць, каб успомніць добрым словам былога гаспадара. Не праводзяцца тут аніякія масавыя мерапрыемствы. Парк сам па сабе зліквідаваўся. Але і тое, што ад яго засталося сведчыць пра магутны дух нашага народа, які ўваскрэсне, калі да ўлады прыйдуць людзі з душой.

Я ў тое веру.

Г.Станкевіч

*P.S. Фотаздымкі з парка “Саломінка”, якія пацвярджаюць сказанае, можна паглядзець на сайце beshankovichy.by*

ЗА БЯСПЕЧНЫЯ ДАРОГІ

# СПРАВА СКРАНУЛАСЯ З МЁРТВАЙ КРОПКІ

**11-га мая на сайце beshankovichy.by быў апублікаваны артыкул “Ці прыжывецца зебра ў Бешанковічах?”, у якім уздымалася пытанне разметкі вуліц у райцэнтры. Цэлых тры месяцы аніякой рэакцыі на яго не было.**

12-га жніўня ў райвыканкаме я сутыкнуўся з начальнікам Бешанковіцкага РАУС Новікам А.Р. На яго дзяжурнае пытанне: “Якія праблемы?” я праінфармаваў яго пра адсутнасць знакаў “Пешаходны пераход” і “зебры” на шматлікіх вуліцах Бешанковічаў. Звярнуў увагу і на неабазначаныя фарбай так званыя ляжачыя паліцэйскія. Начальнік РАУС хуценька занатаваў пачутае і запэўніў, што сітуацыя зменіцца.

І вось ранкам 19-га жніўня на скрыжаванні вуліц К.Маркса і Ўрыцкага (не разумею, што такога яны зрабілі для Бешанковічаў, каб іх тут увекавечваць) з’явіліся камунгасаўцы. Да вечара гэтага дня скрыжаванне было размечана. Тут жа з’явіліся і новыя дарожныя знакі “Пешаходны пераход”.

Новыя дарожныя знакі “Галоўная дарога” і “Саступі дарогу” таксама з’явіліся ўздоўж усёй вуліцы імя Валадарскага аж да мяжы горада і па вуліцы імя Чарняхоўскага. Праўда, ёсць пытанні да вышыні размяшчэння тых знакаў. Некаторыя з іх укапаныя на вышыні 2-х метраў ад зямлі. Іншыя – трох метраў, што робіць складаным успрыманне знакаў удзельнікамі дарожнага руху. Акрамя таго гэта непрыгожа, калі тыя знакі выторкваюць свае галовы на рознай вышыні.

Пакуль што неабазначанымі застаюцца самыя ляжачыя паліцэйскія, хаця папераджальныя знакі аб іх прысутнасці ўжо з’явіліся.

Вельмі хацелася б, каб распачатая справа не абмежавалася парай цэнтральных вуліц, а закранула ўсе асноўныя вуліцы райцэнтра.

Г.Станкевіч

НАША ЖЫЦЦЁ

# АБНАВІЛІ ХОДНІК У БЕШАНКОВІЧАХ

**Спякотным летнім днём 22-га жніўня у Бешанковічах уздоўж вуліцы Віцебская шаша з’явілася асфальтавае пакрыццё на ходніку.**

Трэба сказаць, што падрыхтоўчыя работы тут пачаліся яшчэ напрыканцы чэрвеня. І паўзлі яны, вобразна кажучы, як муха па смале.

Спачатку ходнік абсталявалі новымі бардзюрамі, і гэта работа вялася амаль цэлы месяц. Як пешаходам, так і кіроўцам яна прынесла вялікія нязручнасці, бо на ходніку доўгі час ляжала груда пяску, а праезджая частка шашы часта была часткова перакрытай.

Потым падбудучы асфальт падсыпалі тоўстую падложку, каб зменшыць расход асфальту. Яе выраўнавалі і ўтрамбавалі.

І цяпер усе цяжкасці засталіся ў мінулым, і бешанкоўцы могуць з асалодай прагульвацца да бальніцы і назад па абноўленым ходніку. Яго даўжыня ў цэлым не перавышае 300 метраў.

Вось толькі карыстацца гэтым ходнікам будуць не ўсе. Бо з цэнтра горада найкарацейшы шлях да бальніцы ідзе праз старыя могілкі. А з вуліцы Чарняхоўскага – праз вуліцу Калініна і парк. Там ёсць сцяжынкі, якія зручныя для хадзьбы, але яны асабліва ўзімку патрабуюць дагляду.

У райцэнтры засталося яшчэ кіламетраў 5 – 10 вуліц, якія тэрмінова патрабуюць ходнікаў. Калі абнаўляць іх па 300 метраў у год, то работы хопіць на доўгія гады.

М.Васільеў

ПА СЛЯДАХ АДНОЙ ПУБЛІКАЦЫІ

# АДВЕІЦЬ МЯКІНУ АД ЗЕРНЯ

**11-га жніўня на сайце beshankovichy.by быў размешчаны артыкул карэспандэнта Фёдара Сумкіна з фотаздымкамі кінутага ў Крупенінскім лесе зерня. Адразу ж пасля гэтага 13-га жніўня ў раённай "Зары" з'явілася "апраўвяржэнне" фактаў, пададзеных у Сеціве.**

Са з'яўленнем Сеціва чыноўнікам становіцца ўсё цяжэй кантраляваць свае ўчынкі. Усюдыісныя журналісты аказваюцца раней за ўсіх у тых мясцінах, куды яны, здавалася б, аніяк не могуць патрапіць. І тады грамадскасць даведваецца пра шакуючыя факты.

Што робяць чыноўнікі потым, калі інфармацыя ўжо з'явілася, калі яна небяспечная для чыноўніцкай пасады? Правільна, стараюцца даць тэрміновае абвяржэнне. Пад яго падводзяцца розныя паперы(дакументы), магчыма, складзеныя заднім чыслом і г.д. Але ж факты – рэч упартая.

Скажам, у Сеціве з'явілася інфармацыя пра зерне ў Крупенінскім лесе. Калі меркаваць з пазіцыі чыноўніка (таму меркаванню ў раённай "Зары" адвялі ледзь не паўстаронкі), то аніякага зерня там не было. Былі адкіды. Іх выпісалі, за іх заплацілі, вось яны і ляжаць сабе там, дзе патрэбна – у лесе.

А з гледзішча простага чалавека адкіды зерня – гэта не зерне. Гэта мякіна, насенне пустазелля, то бок тое, што аніякая жывёліна есці не будзе. А калі яго выпісвалі і плацілі за тое грошы, то, пэўна, было ўсё ж зерне. Няхай шчуплае, драбленае, другі гатунак, але ж зерне, фуражнае зерне.

Паспрабуйце выпісаць сабе хаця б тону фуражу па 300 000 рублёў. Я думаю, што вам адмовяць. Бо ў любой гаспадарцы ёсць свая жывёла, якую трэба карміць. Вам, як і мне, прапануюць выпісаць фуражнае зерне па іншым кошце – мінімум 2 500 000 рублёў за тону.

А тое, Крупенінскае "не зерне", аказваецца, "планавалася выкарыстоўваць пры правядзенні карантынных мерапрыемстваў па папярэджанні распаўсюджвання афрыканскай чумы свіней у рэгіёне". Якія правільныя словы! Толькі пасля таго, як выразалі Свіцінскі комплекс і знішчылі пагалоўе ў насельніцтва, будуць папярэджваць распаўсюд чумы!

Кіньце, шаноўныя. Калі ўжо прывезлі зерне ў лес, то хаця б вартаўніка пастаўце. Як ніяк матэрыяльная каштоўнасць. Тады і ў журналістаў не ўзнікне пытання, што робіць тое зерне ў лесе, і вам не прыйдзецца няўклюдна апраўдвацца.

**М.Васільеў**

НАВІНЫ З СЯЛЯНСКІХ ПАДВОРКАЎ

# БЯСПЛАТНАЯ САЛОМА

**Каб зрабіць жыццё вяскоўцаў больш камфортным, сялянам дазволілі бясплатна нарыхтоўваць салому, якая не прэсаваная і не складзеная ў валкі, а валяецца па полю. То бок яны могуць тую салому сагрэсці на полі сваімі рукамі і вывезці на сваім транспарце.**

Як ацаніць такое дбанне? За сталінскімі часамі (калі саджалі ў турму за 5 каласкоў) гэта б, сапраўды, выглядала як неверагодная міласэрнасць. Цяпер жа, калі трымаюць хатнюю жывёлу лічаныя гаспадары, інакш чым здзекам з селяніна тое назваць немагчыма.

Самі калгасы паляць тую салому цэлымі сціртамі з рулонаў. *(Фотаздымкі пра тое – на сайце beshankovichy.by.)* Разжыцца рулонам-другім у любым калгасе не праблема: толькі свісні, як прывязуць за ўмераную плату. І тут такое дбанне!

Першы намеснік старшыні райвыканкама С.Акуневіч і сам нядаўна трымаў жывёлу на сваім падворку. Няўжо ён тады таксама ездзіў выграбаць тую салому рукамі і звазіў сваім транспартам?

Прывезці кожнаму селяніну на падворак столькі рулонаў, колькі той пажадае – вось рэальнае дбанне і дапамога селяніну.

Пасля выконвання такіх праграмаў чамусьці атрымоўваецца зваротны эфект. Сяляне масава адмаўляюцца трымаць жывёлу.

**Г.Станкевіч**

ШКОЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ

# НАВУЧАЛЬНЫ ГОД ПАЧНЕЦЦА 31-ГА ЖНІЎНЯ

**Праз некалькі дзён прагучыць першы званок ва ўстановах адукацыі вобласці, работнікі якіх нямала папрацавалі, каб добра падрыхтавацца да 1 верасня. З абмеркавання гэтага моманту пачалася традыцыйная прэс-канферэнцыя начальніка ўпраўлення адукацыі аблвыканкама Івана Шчуркі.**

Ён адзначыў, што гатоўнасць школ і дашкольных установ да новага навучальнага года правяралі камісіі, у склад якіх уваходзілі педагогі, прадстаўнікі органаў мясцовай выканаўчай улады, супрацоўнікі МНС, цэнтраў гігіены і эпідэміялогіі і іншыя спецыялісты. Асаблівая ўвага звярталася на стан харчаблокаў, спартыўных залаў і пляцовак, стадыёнаў, цеплавых пунктаў, пажарнай бяспекі. Па стане на 19 жніўня былі падпісаны пашпарты гатоўнасці ў 99,5 адсотка устаноў.

Асобныя недахопы адзначаны ў сямі установах, да 28 жніўня яны павінны быць ліквідаваны. На выкананне рамонтных работ з бюджэту патрачана больш за 124 мільярдаў рублёў, якія пайшлі на абнаўленне недахаў, інжынерных сетак, аконных блокаў, замену лямпаў на энергазберагальныя. Капітальна адрамантаваны 48 аб'ектаў, у 465 праведзены бягучы рамонт. Прыемна, што істотную дапамогу аказалі шэфы і спонсары - з пачатку года такая падтрымка склала больш за 6 мільярдаў рублёў.

У гэтым годзе вялося будаўніцтва 11 аб'ектаў. Даканца года плануецца ўвесці ў строй спальны корпус на 200 месцаў з харчаблокам ў Лужаснянскім кадэцкім вучылішчы, дзіцячыя дашкольныя ўстановы ў мікрараёнах Медцэнтр Віцебска і Аэрапорт Полацка, па адным жылым доме для сем'яў, якія выхоўваюць дзяцей-сірот, дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, у гарпасёлку Ула Бешанковіцкага раёна і Талачыне. Паколькі новыя мікрараёны інтэнсіўна развіваюцца, у 2013 годзе працягнецца будаўніцтва дзіцячага сада-яслі ў мікрараёне Білева-2 у Віцебску, мікрараёне № 5 у Оршы і ўстановы цалкам новага тыпу ў Наваполацку - гэта будзе яслі-сад - пачатковая школа. Таксама запланавана ўзвядзенне плавальнага басейна ў дадатак да сярэдняй школе № 46, школы на 1020 вучняў у Білева-2 і базавай школы ў вёсцы Літусава Сенненскага раёна.

1 верасня ў школы прыйдуць больш за 108 тысяч дзяцей, у дашкольныя ўстановы - каля 48 тысяч. Іх сустрэнуць 14 тысяч педагогаў, з якіх амаль 78 адсоткаў маюць першую і вышэйшую катэгорыі, 93 працэнты - вышэйшую адукацыю. Вобласць цалкам забяспечана кадрамі, прыбудзе і маладое папаўненне - 720 выпускнікоў ВНУ і педкаледжа. Вядома, ёсць і некаторыя складанасці.

Іван Антонавіч спыніўся на падрыхтоўцы настаўнікаў замежнай мовы. Сістэме агульнай сярэдняй адукацыі ў дадзены момант патрабуецца больш за 180 такіх спецыялістаў. Аднак выпуск ВДУ імя П.М. Машэрава склаў усяго 82 выкладчыкі замежных моў. Праблема вырашаецца за кошт перападрыхтоўкі і працягу працоўных адносінаў з педагогамі, якія дасягнулі пенсіённага ўзросту. Начальнік упраўлення адукацыі назваў іх "залатым фондам", на які заўсёды можна абаперціся. І ў бягучым навучальным годзе ўсе прадметы будуць выкладацца ў поўным аб'ёме.

Журналісты пацікавіліся тым, як забяспечана сістэма адукацыі падручнікамі.

- Да новага навучальнага года запланавана выдаць 193 найменні падручнікаў, - адзначыў І.Шчурок. - Да 1 верасня мы атрымаем 132 з іх. У верасні-лістападзе паступяць другія часткі новых падручнікаў, а таксама падручнікі і дапаможнікі, выпуск якіх запланаваны на больш позні тэрміны.

Падчас прэс-канферэнцыі абмяркоўвалася і такая тэма, як арганізацыя харчавання. У мінулым годзе 57 працэнтаў навучэнцаў агульнай сярэдняй адукацыі атрымлівалі бясплатнае гарачае харчаванне, у сельскіх школах - усё вучні. Прадугледжваюцца меры па палепшанню школьных сняданкаў і абедаў - усталёўваюцца прамыя сувязі з вытворцамі, сельгасарганізацыямі, а таксама развіваецца ўласная нарыхтоўчая база. У новым навучальным годзе плануецца назапасіць каля 1500 тон бульбы і агародніны, значную колькасць яблыкаў, што дазволіць разнастаіць і пашырыць меню ў школьных сталовых. Да кожнай сельскай ўстановы адукацыі даведзены планы па нарыхтоўцы плодаагародніннай прадукцыі.

Спыніўся Іван Антонавіч і на навінах, якія чакаюць педагогаў, навучэнцаў і бацькоў з 1 верасня. Віцебская вобласць была ў ліку тых, хто адстойваў сістэму профільнай адукацыі. У мінулым годзе ў Глыбокім прайшоў рэспубліканскі семінар, падчас якога таксама вывучалася гэтае пытанне. І ў новым навучальным годзе ў школы вяртаюцца профілі. Дзесяцікласнікі будуць вывучаць асобныя прадметы на павышаным узроўні па фізіка-матэматычным, хіміка-біялагічным і грамадазнаўчым напрамках. Як вядома, больш увага будзе надавацца фізічнай і спартыўнай падрыхтоўцы школьнікаў, іх аздараўленню, таму ў тыднёвы расклад уводзяцца два ўрокі і адзін факультатыўны занятак па прадмеце "Фізічная культура і здароўе". Адзнакі за ўсе тры гадзіны будуць выстаўляцца ў журнале. Курс "Асновы бяспекі жыццядзейнасці" зноў стане абавязковым для вывучэння. Змяняецца колькасць гадзін на стаўку для асобных катэгорый: для педагогаў школ, гімназій, устаноў дадатковай адукацыі яна будзе 20 гадзін, для сістэмы прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі складзе 800 гадзін у год (раней было 720).

На заканчэнне размовы начальнік упраўлення адукацыі аблвыканкама павіншаваў усіх з пачаткам новага навучальнага года і паведаміў, што ён пачнецца 31-га жніўня, калі пройдуць святочныя ўрачыстыя лінейкі. 1 верасня - выхадны, 2-га - першы ўрок "Як ты сэрцу міла, дарагая Беларусь". Першакласнікам па традыцыі будуць уручаны падарункі ад кіраўніка дзяржавы.

**Ларыса Волкава**
**Віцьбічы**

МОВА – ДУША НАРОДА

# МІНІСТР АДУКАЦЫІ: "Я ПАЖАДАЎ БЫ, КАБ ВУЧНІ ВЫБІРАЛІ БЕЛАРУСКУЮ…"

**Хутка 1-га верасня, і 132 першакласніка з Бешанковіцкага раёна ўпершыню пойдуць у школу. І большая частка з іх пачне вучыцца на расейскай мове. Такая ўжо "традыцыя" склалася ў Бешанковічах.**

Толькі ці маюць рацыю тыя, хто аддае перавагу адукацыі на расейскай мове?

Міністр адукацыі Сяргей Маскевіч выказаў 15 жніўня на прэс-канферэнцыі ў Мінску такое меркаванне: "Вывучанне школьных прадметаў на беларускай мове прынесла б толькі карысць і вучням, і радзіме наогул. Асабіста я пажадаў бы, каб вучні выбіралі мовай вывучання школьных прадметаў беларускую, — адзначыў ён. — Мне здаецца, гэта было б вельмі добра і для Беларусі, і для іх саміх. На сваіх сустрэчах рознага ўзроўню я звяртаю ўвагу загадчыкаў розных аддзелаў адукацыі, кіраўнікоў абласных упраўленняў на тое, каб яны праводзілі нарады і размаўлялі з бацькамі, выкладчыкамі наконт таго, каб весці працу па больш ужыванні беларускай мовы, агітавалі размаўляць на ёй сваіх дзяцей".

Аднак, дадаў міністр, выбіраць, на якой мове вучыцца, — гэта асабістае права кожнага вучня.

Згодна з Кодэксам аб адукацыі, «дзяржава гарантуе грамадзянам права выбару выхавання і навучання на адной з дзяржаўных моваў Беларусі і стварае ўмовы для рэалізацыі гэтага права». На практыцы ж падставай для таго, каб стварыць беларускамоўную групу ў садку ці клас у школе, з'яўляецца наяўнасць 20 адпаведных заяваў ад бацькоў дзяцей з аднаго мікрараёна.

Дакументы, неабходныя для прыёму ў першы клас:

1. Заява бацькоў або законных прадстаўнікоў дзіцяці з указаннем мовы навучання.
2. Медыцынская даведка.
3. Арыгінал і копія пасведчання аб нараджэнні дзіцяці.
4. Пашпарт бацькоў або законных прадстаўнікоў дзіцяці і пашпарт дзіцяці (пры яго наяўнасці).

Нават калі вы ўжо выбралі расейскую мову навучання і напісалі заяву, калі ў вас ёсць жаданне, каб ваша дзіця вучылася па-беларуску, тэлефануйце на нумары рэдакцыі газеты "Крывінка": 6-02-37 або 218-47-39. Мы вам дапаможам, каб ваша дзіця навучалася па-беларуску.

Падтрымаем нашага міністра адукацыі! Зробім крок насустрач сваёй мове!

**Г.Станкевіч**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведамце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/kryvinka.html ящчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

*• Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Крывінка».*

КАЛІЙНАЕ ПЫТАННЕ

# ФРАНКЕНШТЕЙН. БЕЛОРУССКИЙ ВАРИАНТ

**Беспрецедентный - такое определение часто звучало вчера в связи с арестом гендиректора «Уралкалия» Владислава Баумгертнера. И с этим не поспоришь. Использовать встречу с премьер-министром в качестве «наживки», дабы заманить подозреваемого на свою территорию - это беспрецедентно. И невозможно ни в одной нормальной стране**

В любой нормальной стране Мясникович уже через полчаса с момента, когда на лентах информагентств появилось сообщение о аресте его гостя, объяснялся бы со СМИ. И по результатам этих объяснений либо сам писал заявление об отставке, либо снимал бы руководство спецслужб, которое допустило, чтобы глава правительства вел переговоры с человеком, подозреваемым в совершении серьезных преступлений.

У нас не наступило ни того, ни другого. У нас все по особому. Ибо кто такой Мясникович? Формально второе лицо в государстве? Не смешите. И ребенок знает, кто у нас главный, а остальные так - статисты и писарчуки.

А какой у статиста может быть имидж? Ему сказали - он сделал. И все довольны.

Поэтому не будем о Мясниковиче.

За свою долгую полити-ческую жизнь Александр Лукашенко многократно шел «ва-банк», и все привыкли, что у него всегда все получается. А даже если не получается, то услужливый агитпроп путем длительной и беспрерывной атаки на умы сограждан убедит всех, что Александр Григорьевич в очередной раз разложил на лопатки весь мир.

Поэтому большинство не сомневается, кто выйдет победителем из очередной схватки.

Тем временем ситуация сложилась достаточно одноз-начная.

Один из влиятельных российских бизнесменов был завлечен на территорию союзнического государства. Провел переговоры с его властями, а когда их результаты неудовлетворилипринимающую сторону,быларестованиобвинен в совершении преступления.

Если бы договорились, никто никого бы не арестовывал. Не договорились. Арестовали.

И как не крути, а арест руководителя компании, кото-рая только за 2012 год заработала 3 950 млн. долларов, - это удар по российским интересам и однозначный вызов Кремлю.

Однако Россию не жалко. Она поддерживала Лукашенко вот уже 19 лет. Когда его власть шаталась, Кремль всегда протягивал ему руку помощи. Политик Лукашенко и созданная им политическая система - это во многом российский продукт.

И сейчас этот продукт дал звучную пощечину своему создателю. Сюжет прямо, как у Мэри Шэлли.

«Урри, Урри, где у него кнопка?» - вопрошал извест-ный персонаж популярного фильма из моего детства. Нечто подобное сейчас думают и в Кремле.

Так есть ли у Лукашенко кнопка? И знает ли Владимир Путин, где она находится? Или все наоборот. И это Лукашенко и его силовые структуры как раз сейчас нащупывают эту самую кнопку у Кремля?

Ответ на эти и другие вопросы мы получим уже скоро.

А пока Следственный Комитет учится безошибочно склонять фамилию Баумгертнер, сам господин Баумгертнер знакомится с особенностями белорусской пенитенциарной системы, а господин Мясникович готовится к новым встречам.

Ему еще со стольким надо встретиться!

**Анджей Почобут**

ПАЛІТЫЧНЫ ВЯЗЕНЬ

# ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ: НЕ КАЛЫМА — І ДЗЯКУЙ БОГУ

**Па вызваленні 28 жніўня з гарадзенскай турмы Зміцер Дашкевіч адказаў на некалькі пытанняў журналістаў.**

***— Якія самыя цяжкія моманты былі за час зняволення?***

— Якія самыя цяжкія? (усміхаецца). Самыя складаныя, калі два кешары па этапу цягнеш, а так усё проста.

***— Ці змяніла Вас турма?***

— Трэба, каб людзі паглядзелі ды ацанілі. Я ж не магу сябе сам ацаніць. Я б хацеў усім падзякаваць за падтрымку, за лісты, за малітвы. Гэта самае важнае для чалавека, які знаходзіцца ў турме.

***— Ці лёгка было вытрымаць той ціск, што аказваўся на Вас у турме?***

— Усё адносна. Цяжка не цяжка. Ведаеце, не так яно, каб і проста, але і не Калыма. Ну і дзякуй Богу.

***— Не зламалі Вас?***

— Я збіраюся займацца тым жа, чым займаўся. Буду рабіць тое, што рабіў да турмы.

***— Вы ж ведаеце, што шмат людзей з'ехала з краіны.***

— Я нікуды не еду.

***— Якое было стаўленне іншых вязняў?***

— Заўсёды і ўсюды вельмі добра падтрымлівалі. У некаторых месцах былі такія спробы адміністрацыі выкарыстоўваць зняволеных, каб яны нешта ажыццяўлялі. У турме заўсёды знойдуцца людзі, якія гатовыя зарабіць сабе ўмоўна-датэрміновае. Я іх разумею, калі 20–25 гадоў тэрмін, то будуць рабіць усё, што скажа адміністрацыя. Хаця нават у адміністрацыі ёсць розныя людзі, ёсць тыя, што чытаюць незалежныя СМІ. Нехта мог словам падтрымаць, нехта заварыць гарбаткі, нехта яблык. Я не магу сказаць, хто гэтыя людзі. Але будзе час, што скажу.

**"Наша Ніва"**

СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ

# СУД У ЧАРГОВЫ РАЗ АДМОВІЎСЯ РАЗГЛЯДАЦЬ СКАРГУ

**Калегія па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суда разгледзела прыватную скаргу Любові Кавалёвай і Таццяны Казяр – родных расстралянага Уладзіслава Кавалёва, абвінавачанага ў здзяйсненні тэракту ў метро Мінска.**

Родныя Кавалёва абскардж-валі адмову суда Кастрычніцкага раёна г. Мінска ва ўзбуджэнні грамадзянскай справы па іх скарзе на адмову прадаставіць інфармацыю пра месца пахавання Уладзіслава.

Калегія пакінула без задавальнення прыватную скаргу Любові Кавалёвай і Таццяны Казяр. Суддзя Аксана Будоўская пагадзілася з высновамі суда Кастрычніцкага раёна Мінска аб тым, што разгляд дадзенага звароту не падведамасны агульным судам Беларусі.

Па словах адваката Кавалёвай і Казяр Сяргея Галубка, у дадзеным выпадку парушана канстытуцыйнае права кожнага на судовую абарону. Адвакат таксама адзначыў, што ў чарговы раз беларускія суды падцвердзілі сваё нежаданне выконваць рашэнне Камітэта па правах чалавека – органа, прадугледжанага Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах,міжнароднай дамовы, якую Беларусь ратыфікавала і абавязалася выконваць.

Паводле адваката, рашэнне будзе абскарджана ў наглядным парадку, а таксама будуць прыняты меры на міжнародным узроўні, каб дабіцца выканання рашэння Камітэта па правах чалавека ААН, і каб родныя даведаліся праўду пра месца пахавання сына і брата.

Скарга Любові Кавалёвай і Таццяны Казяр па справе Уладзіслава Кавалёва была разгледжана Камітэтам па правах чалавека ААН. Камітэт прызнаў, што было парушана права на жыццё і прызнаў парушэнне права на атрыманне цела забітага сваяка і інфармацыі пра час і месца ягонага пахавання.

**http://spring96.org/be/news/65430**

НАША ЎЛАДА

# КОЛЬКІ САЛДАТ Ў ЛУКАШЭНКІ?

**З грашыма ўсё горш, і таму уладам Беларусі давядзецца эканоміць нават на арміі. Такая, калі зняць камуфляж, падаплёка нарады па пытаннях узброеных сіл, якое Аляксандр Лукашэнка правёў 20 жніўня.**

У прыватнасці, прэзідэнт і галоўнакамандуючы заявіў, што варта працягнуць працу па аптымізацыі структуры і скарачэнні колькасці ўзброеных сіл.

**Войска будуць скарачаць і далей**

Пры гэтым прагучала, што цяпер у складзе ўзброеных сіл - каля ста тысяч чалавек. Лічба выклікала здзіўленне ў нашых ваенных экспертаў. Так, Аляксандр Алесін у каментары для Naviny.by палічыў яе звычайнай для беларускага афіцыйнага лідэра гіпербала. На самай справе колькасць айчыннага войскі даўно зрэзалі ніжэй гэтага паказчыка.

Па дадзеных іншага суразмоўцы Naviny.by - кіраўніка аналітычнага праекта Belarus Security Blog Андрэя Паротнікава, сення штатная колькасць беларускіх нд - 48 тысяч ваеннаслужачых і 12 тысяч асоб грамадзянскага персаналу, рэальная ж яшчэ менш за кошт некамплекту.

Паротнікаў шкадуе, што гаворка ідзе не аб рэфармаванні арміі, а аб далейшым банальным скарачэнні, пры тым што «часы скарачэнняў прайшлі, і ўжо даўно проста няма чаго скарачаць». Прычына ж такога прымітыўнага падыходу, як мяркуе эксперт, празаічная: "Грошай няма і не прадбачыцца".

Пры гэтым аналітык не згодны, што на забеспячэнне абараназдольнасці няма рэсурсу: велізарныя сродкі, у прыватнасці, былі патрачаны на леташнія «Дажынкі» ў Горках і яшчэ невядома колькі прыйдзецца выдаткаваць на рамонт таго, што там ужо пасыпалася. «Беларусь у стане сябе абараніць, і грошы ў краіне ёсць, пытанне ў прыярытэтах і эфектыўнасці расходавання сродкаў», - рэзюмуе Паротнікаў.

**На табе, нябожа, што нам не гожа!**

І ўсё ж больш падобна на тое, што беларускія фінансы прыпадабняюцца Трышкіну каптану. Улада ліхаманкава мяркуе, што б каму сплавіць. Вось адзін з сімптомаў: на нарадзе Лукашэнка загадаў прадаваць лішкі прадукцыі ваеннага прызначэння, «якія нам у прынцыпе не патрэбныя ў сувязі з тым, што ідзе мадэрнізацыя узброеных сілаў». Карацей, на табе, нябожа, што нам ня гожа! «Падобна на тое, што гэта пошук грошай ужо не толькі для войска, але і ў прынцыпе для бюджэту», - мяркуе Алесін.

Аднак на гэтай справе Мінск відавочна шмат не наварыць. Залатыя часы распродажы велізарных запасаў савецкага ўзбраення прайшлі. Рэшткі невялікія, да таго ж іх трэба прыводзіць у таварны выгляд, ды і пакваліцца на такое дабро могуць хіба што адсталыя рэжымы трэцяга свету, у якіх у кішэнях, як правіла, гуляе вецер.

Рэальна сякі-такі даход можа даць продаж бамбавікоў Су-24, знішчальнікаў Су-27, кажа Алесін. Астатняе - існая дробязь, «тандэт» дадае эксперт: «З-за пары дзіравых танкаў і БРДМаў, за якія выручыш нават не сотні, а толькі дзесяткі тысяч даляраў, няма сэнсу пэцкацца».

Што ж тычыцца самалётаў, то, па грубым прыкідках, можна наскрэбці на продаж тузін, а то і больш састарэлых, распрацаваных ў СССР яшчэ ў 60-х гадах Су-24. Таксама ў мінулым годзе былі выведзены з эксплуатацыі ў айчынных ВПС 14 Су-27. Іх можна адрамантаваць і мадэрнізаваць на авіярамонтным заводзе ў Баранавічах. Але гэта таксама затраты. У выніку ж за Су-27 атрымаецца выбавіць максімум па 5-7 мільёнаў даляраў, Су-24 давядзецца прадаваць яшчэ танней, мяркуе Алесін...

**Чужыя базы - як стрэмкі**

Але чым далей, тым складаней вырашаць з Расіяй пытанні такім саматужным спосабам. Масква таго і глядзі прыбярэ да рук і сам МКЗТ. Тым больш не наскрэбці грошай на куплю сучасных баявых самалётаў. І наогул, мадэрнізацыя беларускага войска - пад вялікім пытаннем. Памятаеце «Вяселле ў Малінаўцы»: «У пана атамана няма залатога запасу».

Тым часам, як бачым, расейцы вырашаюць пытанне «абароны саюзных межаў» у фірмовым стылі - прыходзяць на беларускую зямлю са сваёй зброяй. Абяцаннямі даць С-300 кормяць які год, а вось месца для сваёй авіябазы пад бокам у НАТА падабралі ў дзіўнай спрытнасці.

Прадбачу рэпліку: а што тут такога, бо і натаўскія суседзі Беларусі выкарыстоўваюць для сваёй абароны замежную авіяцыю! Сапраўды, неба Балтыі патрулююць знішчальнікі іншых краін альянсу, Польшча разміячае ў сябе амерыканскія F-16.

Розніца, аднак, у тым, што ў стасунках Расеі з Беларуссю - цяжкі імпэрскі бэкграўнд.

І не толькі з Беларуссю. Успомніце вайну з Грузіяй. Паглядзіце, як прэсінгуюць сёння накіраваную на еўрапейскую інтэграцыю Украіну.

Тэрыторыю ж на захад ад Смаленска Масква традыцыйна разглядае як свой стратэгічны плацдарм. Незалежнасць «сінявокай малодшай сястры" амаль усім пагалоўна у расійскіх элітах уяўляецца гістарычным непаразуменнем.

І калі калі-небудзь Беларусь абярэ іншы шлях развіцця, то ваенныя аб'екты ўсходняй суседкі могуць стацца ў гнілую стрэмку. *(скарочана)*

**Аляксандр Класкоўскі**

**Чытаць цалкам: naviny.by**

НАША КУЛЬТУРА

# ГУТАРКА З УЛАДЗІМІРАМ АРЛОВЫМ: МАЯ ДОЛЯ НЕЎМІРУЧАСЦІ

**25 жніўня пісьменніку і гісторыку споўнілася 60 гадоў. Напярэдадні ён адказаў на некалькі пытанняў «Нашай Нівы».**

*«Наша Ніва»: Ці будзеце Вы адзначаць 60-годдзе? Увогуле, у Вас прынята адзначаць дні нараджэння? Калі так, то мо ўзгадаеце самы памятны з іх і самы памятны падарунак*

*Уладзімір Арлоў:* Зрабіць выгляд, быццам нічога не здарылася, было б не зусім па-мужчынску. Прыход на свет — галоўная падзея жыцця. Цяжка не пагадзіцца з Платонам: нараджэнне ёсць той доляй неўміручасці і вечнасці, якая дадзеная смяротнай істоце.

Мне даводзілася сустракаць гэты дзень і на самоце, і ў вандроўцы далёка ад дому, але я ніколі не забываў яго адзначыць — хаця б няспешнай размоваю з самім сабой.

З гадамі чалавек нібыта ўсё бліжэйшы да багоў, герояў і дэманаў, і людзі цікавяць яго ўсё менш. Пакуль што не магу сказаць тое пра сябе. Прынамсі, людзі працягваюць цікавіць мяне, і некаторых з іх я хачу абавязкова ў апошнія жнівеньскія дні ўбачыць.

Дадам, што з 2008 я адзначаю і другі свой дзень нараджэння — 6 лістапада. Тады я — ужо з інфарктам і тромбам, што затаіўся ў адной з артэрыяў — нейкім дзівам даляцеў з Лондана, дзе быў на канферэнцыі і, дарэчы, выступаў на тэму "Сыход паэта з яснай явы. Версіі Купалавай смерці", і ў Мінску адразу трапіў у рэанімацыю. Кардыяхірург Алег Паланецкі вярнуў мне адабраны рэаніматолагамі тэлефон і даў дзесяць хвілін да пачатку тэрміновай аперацыі. Па дарозе ў аперацыйную, я думаў, што, калі сёння ўсё скончыцца тут, даведаюся, што дзеецца там. Не вельмі, прызнаюся, такая думка суцяшала, але літарацкі інстынкт, тым не менш, прымушаў запамінаць усе дэталі.

У Віславы Шымборскай ёсць пераствораны Андрэем Хадановічам верш «Заўтра без нас»:

...Наступны дзень<br>
абяцае быць сонечным,<br>
хоць тым, хто будзе жыць далей,<br>
яшчэ спатрэбіцца парасон.

Як бачыце, парасон мне дагэтуль патрэбны...

*«НН»: Я ведаю, што кожнае лета Вы выпраўляецеся на беларускія выспы. Чаму на іх, а не на Мальту, Кіпр ці Тэнэрыфе?*

*УА:* Выспа павінна быць бязлюднай. Тады, калі высаджваецца нашая сябрына, там — няхай усяго на пару дзён — утвараецца свой, заўсёды непаўторны свет, у якім мы ўсе разам сапраўды ляцім да зор.

Я бываў на Кіпры, але на Асвейскай выспе, далібог, спадабалася больш (між іншага, гэта адзінае ў нас месца, дзе здараецца фата-маргана) Хіба ў Ларнацы або Лімасоле да вас прыйдзе знаёміцца сям'я ваўкоў? А тамтэйшыя вялізныя здзічэлыя сады! Калісьці з выспы выселілі на бераг цэлую вёску — каб нарэшце ўсталяваць у ёй савецкую ўладу. Але засталіся сады, падмуркі, магілы. І, вядома, душы былых астраўлянаў. Мне там увесь час прыходзілі на памяць «Марсіянскія хронікі» Рэя Брэдберы. Мо і з тае прычыны, што якраз пад час нашага падарожжа адбылося амаль поўнае зацменне Месяца. Ноч пасля зрабілася такой светлаю, што я а другой гадзіне чытаў на беразе свежы нумар "Arche".

*«НН»: Раней Вы казалі, што твор «Незалежнасць — гэта...» самы папулярны сярод тых, што просяць прачытаць на сустрэчах. А Вы лічыце, што незалежнасць — гэта ўжо назаўсёды, ці яе трэба працягваць пільнаваць?*

*УА:* Незалежнасць — гэта назаўсёды найвялікшая каштоўнасць для нацыі, бо без яе нацыя не здольная выканаць сваю гістарычную місію ці, калі хочаце, Божае наканаванне. Ад нашай жа незалежнасці кожны дзень адшчыкваюць па драбку, а часам і адгрызаюць цэлы шмат.

Незалежнасці не будзе без гістарычнай памяці, а цяперашняя ўлада будуе 'лінію Сталіна' ды яе філіялы, не 'плануючы' ставіць помнік Каліноўскаму. Незалежнасці не будзе без мовы, а няўхільна скарачаецца беларускамоўнае навучанне. Я выдатна разумею, што Беларусь ніколі не была і не бу-дзе моналінгвістычнай, гэтаксама як не была і не будзе монакультурнай і монаканфесійнай. Але ж мы ёсць сведкамі штодзённай дыскрымінацыі менавіта мовы тытульнай нацыі.

Днямі тэлефаную ў даведку ў аэрапорт, і з таго боку дзяўчо зусім не агрэсіўна, а разгублена просіць гаварыць па-руску, бо баіцца нешта няправільна адказаць: не ведае, што за месяцы жнівень і верасень, перапытвае пра нядзелю. І раптам пачынае прабачацца: а дзе яна магла вывучыць мову, калі школа руская, радыё па-руску, тэлебачанне па-руску?

Дарэчы, пра тэлебачанне. Колькі мы чулі пра новы беларускамоўны канал! Усе абяцанкі аказаліся цынічнай хлуснёй. Можна дзень пры дні раз-пораз уключаць «Беларусь-3» і не сустрэць анічога ні беларускамоўнага, ні наогул беларускага хаця б тэматычна. Затое вас чакаюць здзеклівыя неспадзяванкі. Ідзе мульцік паводле казкі Уладзіміра Караткевіча «Чортаў скарб»: цітры праплылі па-беларуску, а фільм дубляваны на рускую мову...

Але не дачакаюцца. Мова пераживе і цяперашнюю хвалю русіфікацыі.

*«НН»: І апошняе. Што б самі пажадалі сабе на гэты дзень нараджэння?*

*УА:* Пасцець, пакуль не сустрэнуцца канцы маёй бясконцасці. *(скарочана)*

Гутарыў **Зміцер Панкавец**

ПЕРШАЯ АСОБА

# ПОСЛЕДНЕЕ ПРЕЗИДЕНТСКОЕ ПРЕДУПРЕЖДЕНИЕ. ХРОНИКА

"Больше шальных денег в спорте не будет. Показал результат - получи бешеные деньги. Нет результата - нет денег", - это 18 августа президент чиновнико-спортсменам.

"Нет больше шальных денег. Я говорю это и сельчанам, и промышленникам, и другим. Не потому, что у нас нет денег – денег в стране хватает, но деньги надо зарабатывать. Тогда у нас не будет ни паник, ни катаклизмов, ни кризисов, ни авралов", – а это в сентябре 2011 года и тоже спортсменам.

"Денег шальных больше не будет. В случае достижения хороших результатов - получите еще какую-нибудь премию, результата не достигнете – возвращайте деньги. Я с вас спрошу за результат", - это в мае 2011 года конечно, спортсменам.

"Надо многим готовиться и к тому, я это публично сегодня объявляю, что шальных денег в спорте больше не будет. Только за конкретный результат", - это в августе 2012 года спортсменам же.

"Я не хотел бы, чтобы это совещание превратилось в очередное выбивание денег для спортивных организаций, клубов и спортсменов. Вот это выкиньте сразу из головы, этого не будет", - это в январе 2013 года последнее президентское предупреждение спортс-менам.

И я, вроде, дословно знаю, что президент скажет на следующих пяти спортивных совещаниях....

Помимо спорта "шальных денег" уже много много лет уже не будет у: сельского хозяйства, строителей, учёных, губернаторов и прочих. Особенно у крестьян, да:

• «Никто лишних денег из бюджета не получит», - это сельчанам в апреле 2004-го

• "Больше раздачи денег «огулом» не будет! Ее уже нет, этой раздачи. Я требую это сделать, но за счет производительности труда. Потому что денег уже никто не напечатает", - это им же в ноябре 2006.

• "Проедать деньги больше не будем. Это крестьяне должны себе четко усвоить. И не надо ждать, что мы эти деньги будем раздавать. Лишних денег нет", -- туда же в июле 2007-го.

• "Главный смысл корректировки в том, что шальных денег больше не будет. Никто вваливать в экономику и сельское хозяйство, как прежде, бешеных денег не будет", - тем же сентябрь 2011-го.

• «Шальных денег нет, никто вам деньги со стороны не даст, тем более, не напечатает», - а это уже губернаторам в июне 2012-го.

• "Еще раз подчеркиваю: никаких шальных денег быть не должно. У нас экономика работает нормально, она может себя обеспечивать", - и главе Нацбанка, в июле 2012 года

• «Никаких шальных денег нет и никаких излишеств быть не должно" – снова сельчанам, в апреле 2013-го.

Теперь каждый из вас может составить идеальную президентскую речь по итогам совещания по…. здесь впишите сами. Например так:

"Шальных денег больше не будет. Выкиньте сразу из головы. Деньги надо заработать. Покажите результат – и будут бешеные деньги. Я спрошу за результат." Аминь.

**Виктор Малишевский**

КУПЛЯЙЦЕ БЕЛАРУСКАЕ...

# «НЯХАЙ ПРАДАЮЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ПАНЧОХІ, ШКАРПЭТКІ!»

**Пракаповіч лічыць абавязковым выкананне ІП патрабаванняў тэхрэгламенту Мытнага саюза аб бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці.**

"Прадпрымальнікі ўзды-маюць пытанне пра гэта тэхрэгламенце, заяўляюць, што па ім немагчыма працаваць. А як можна без элементарных дакументаў прадаваць прадукцыю, якая тычыцца бяспекі жыцця і здароўя чалавека? Калі яны кажуць, што так не могуць працаваць, няхай гандлюючь беларускай прадукцыяй, няхай прадаюць беларускія панчохі, шкарпэткі", - заявіў Пётр Пракаповіч на пасяджэнні Савета па развіцці прадпрымальніцтва, перадае" Інтэрфакс ".

Віцэ-прэм'ер адзначыў, што ўрад прадаставіў ІП істотныя льготы і камфортныя ўмовы па пераходзе на працу па новых правілах. Акрамя таго, працягнуў ён, сёння ў Беларусі атрымліваюць развіццё не рынкавыя формы гандлю, а буйная гандлёвыя сеткі.

"Сёння не тая сітуацыя, што была 20 гадоў таму. У нас створаны буйныя гандлёвыя цэнтры, сеткі, і ў наступнай пяцігодцы колькасць гандлёвых плошчаў на душу насельніцтва будзе, як у Еўропе. Калісьці скончыцца час, што людзі будуць ісці за таварамі на рынак ", - сказаў Пракаповіч.

У сувязі з гэтым ён прапанаваў ІП, якія сёння займаюцца гандлем на рынках, "падумаць пра тое, чым займацца далей, ісці ў іншыя сферы - у турызм, аказанне паслуг, вытворчасць".

"Любое аб'яднанне - гэта страта часткі незалежнасці і праца па агульных правілах. Гэта карысць для ўсіх, калі і ў Беларусі, і ў Расіі, і ў Казахстане ёсць адзіныя правілы", - падкрэсліў віцэ-прэм'ер.

**www.charter97.org/ru/news/2013/8/23/74445/**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# АПАЗІЦЫЯ БУДЗЕ ЎВАЖЛІВА НАЗІРАЦЬ ЗА МЯСЦОВЫМІ ВЫБАРАМІ

**Намеснік старшыні Руху "За Свабоду" Юрась Губарэвіч паведаміў БелаПАН, што ў межах кампаніі "За справядлівыя выбары" пяць апазіцыйных арганізацый маюць намер вылучыць 1,5 тысячы назіральнікаў.**

Пагадненне аб сумесным назіранні падпісалі Рух "За Свабоду", кампанія "Гавары праўду!", Партыя БНФ, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) і аргкамітэт па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя".

Губарэвіч паведаміў, што ўпершыню кампанія "За справядлівыя выбары" была рэалізавана ў форме міжпартыйнага пагаднення на парламенцкіх выбарах 2008 года, пасля праводзілася на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года і парламенцкіх 2012-га. "У адрозненне ад папярэдніх кампаній на маючых адбыцца мясцовых выбарах асноўны акцэнт было вырашана зрабіць на працы назіральнікаў у тых акругах, дзе ёсць кандыдаты, якія прадстаўляюць структуры, якія падпісалі пагадненне", – сказаў ён.

Губарэвіч таксама паведаміў, што пагадненне аб удзеле ў кампаніі "За справядлівыя выбары" адкрыта для падпісання ўсімі арганізацыямі, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі.

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 30.08.2013 у 17.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.